CHRYŚCIJANSKAJA DUMKA

BIEŁARUSKI CASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY Ŭ MIESIAC: 1, 10 i 20.

№ 1 (185) Vilnia, 2 studzienia 1938 h. Hod XII.



# SPATYKAJUČY NOVY HOD...

Adyjšoŭ stary hod, nastupiŭ novy. Što daŭ nam stary i što niasie novy?

Praŭda, stary hod nia byŭ dla nas łaskavy, ale nia byŭ i zmarnavany. Za minuły stary hod biełaruskaja vioska nia mała pastupiła ŭpierad u svajej biełaruskaj śviedamaści, u biełaruskaj hramacie i kultury.

U hetym-ža kirunku pavinna raźvivacca biełaruskaja praca i ŭ hetym Novym Hodzie. Kažam — pavinna, ale ci tak budzie sapraŭdy — Boh viedaje. U kožnym vypadku natužym usie svaje siły, kab praca naša dalej płodna raźvivałasia ŭ biełaruskim nacyjanalnym kirunku. Słužyć hetaj spravie—najvialikšaje zadańnie našaha časapisu. I pad hetym uzhladam zrobim usio ad nas zaležnaje.

Na žal užo spraŭdziłasia pahavorka, što čałaviek stralaje, a Boh kuli nosić. My padali da viedama svaich čytačoŭ i ahułam usich Biełarusaŭ, što ŭ hetym novym hodzie „Chr. Dumka" budzie vychodzić štotydnia. Tymčasam z vialikim žalem ciapier musim henuju svaju zajavu adklikać z niezaležnych ad nas pryčyn. Vysyłka z Vilni vydaŭca našaha časapisu i hałoŭnaha supracoŭnika ks. Ad. Stankieviča, a tak-ža vysyłka z tej-ža Vilni viedamaha dziejača i kulturnika inž. Ad. Klimoviča, jaki tak-ža niamała pamahaŭ nam u pracy, nie dazvalaje nam datrymać svajho słova. Voś-ža naš časapis, jak i ŭ minułym hodzie, budzie vychodzić try razy ŭ miesiac z miesiačnym dadatkam „Zorka". Tyja-ž našy padpiščyki, jakija prysłali nam padpisku na tydniovik i hetym buduć pakryŭdžany, niachaj pišuć da nas, a my im tuju ich nadvyšku zarachujem na budučy hod, abo vyšlem za heta jakichniebudź biełaruskich knižak.

I dalej naš časapis budzie biezpartyjny, ahulna-biełaruski. Ni ŭ jakija palityčnyja plany, ni ŭ jakija sprečki z inšymi biełaruskimi časapisami i dalej uvachodzić nia dumajem, i dalej budziem budzić biełaruskuju narodnuju dumku, šyryć pasiarod šyrokich biełaruskich masaŭ rodnuju knižku, razbudžać i padtrymlivać ŭ biełaruskim narodzie rodnuju kulturu.

Drukavać budziem naš časapis i łacinkaj i hraždankaj, pavodle taho, jak chto da nas budzie pisać.

Rabić-ža hetak budziem u imia bratniaj zhody Biełarusaŭ katalikoŭ i pravasłaŭnych, u imia adzinstva biełaruskaha narodu.

Usia-ž hetaja naša praca budzie apiracca na asnovach chryścijanstva. My dobra viedajem, što tyja sučasnyja kirunki, jakija imknucca zaŭładać dušoj čałavieka i padparadkavać jaje roznym palityčnym metam, źjaŭlajucca vialikimi vorahami čałavieka adzinki, a tak-ža i narodaŭ. Najvyšejšaja vartaść čałavieka ahułam, — heta jaho volnaja duša, majučaja volny dostup da adviečnaj krynicy svajho bytu, da Boha. Hvarancyjaj-ža hetaha jość Chryścijanstva. Siańnia bolš jak kali jaŭna bačym, što tolki Chryścijanstva źjaŭlajecca adzinaj i nieparušnaj padporaj praŭdzivaha i poŭnaha žyćcia, a takža pravoŭ adzinki i narodaŭ.

Voś-ža z hetkimi bolš-mienš namierami prystupajem da pracy ŭ hetym Novym Hodzie. Ci vykanajem ich, — budzie zaležyć ad dalejšaha mataryjalnaha i maralnaha padtrymańnia nas z boku našaha sialanstva i intelihiencyi.

Dyk z Boham da pracy!...

## *На выбары ў сельска-грамадзкія рады!*

*БЕЛАРУСЫ! Пры адсутнасьці беларускіх гаспадарчых і культурных арганізацыяў мы мусім сваю грамадзкую ўвагу і энэргію сьціраваць на тэрытарыяльны самаўрад — на сельска-грамадзкія, валасныя і паветавыя рады.*

*Цяпер адбываюцца выбары сельска-грамадзкіх радных. На гэтыя выбары беларускія выбаршчыкі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Гэта першая і вельмі важная ступень выбараў у тэрытарыяльны самаўрад. Ад гэтых выбараў цалком залежны рэзультаты выбараў валасных і паветавых радных.*

*Дык усе на выбары! Беларускія радныя павінны заняць належнае месца ў сельска-грамадзкіх, валасных і паветавых радах!*

## Vysialeńnie ks. Ad. Stankieviča i inž. Ad. Klimoviča

Pa zahadu Vilenskaha Vajavody 27 śniežnia 1938 h. vysieleny z Vilni biełaruskija dziejačy ks. Adam Stankievič i inž. Adolf Klimovič.

Ks. Ad. Stankievič vyjechaŭ u Słonim, dzie časova pasialiŭsia, a inž. Ad. Klimovič vyjechaŭ pakulšto ŭ Varšavu.

Vilenskija biełarusy pravodzili abodvych vysialencaŭ i na vakzale, prad adjezdam, čuła z imi raźvitvalisia. Biełaruskija žančyny i moładź, na vakzale, padali ks. Stankieviču i inž. Klimoviču vialikija bukiety žyvych krasak, apajasanyja biełaruskimi nacyjanalnymi bieła-čyrvona-biełymi istužkami, na jakich vyšyty adpaviednyja napisy.

Adnačasna vysieleny i viedamy ks. Uład. Tałočka.

### Ks. Ad. Stankievič

Užo daŭno ksiondz Adam Stankievič viedamy Biełaruskamu narodu. U 1922 h. narod vybraŭ Jaho svaim pasłom u Varšaŭski Sojm dzie ks. Stankievič davier narodu apraŭdaŭ. Ab zasłuhach ks. Stankieviča dla narodu śviedčyć jahonaja praca. Ks. Ad. Stankievič u biełaruskim hramadzianstvie zajmaje pieradavoje i duchova-pavadyrskaje stanovišča.

### Inž. Ad. Klimovič

Na nivie biełaruskaha adradžeńnia inžynier Adolf Klimovič viedamy daŭno. Jašče budučy studentam Praskaha Universytetu (u Čechasłavaččynie) pačaŭ Jon pracavać dla narodu. Pa skančeńni studyjaŭ inž. Klimovič ad 1928 h. biezpraryŭna pracuje ŭ Kraju, u biełaruskich arhanizacyjach i biełaruskim vydaviectvie. U hierarchii biełaruskaha hramadztva inž. Ad. Klimovič zajmaje vysokaje stanovišča.

### Ks. Uład. Tałočka

Biełarusy ab ksiandzu Uładysłavu Tałočku dahetul vielmi mała što čuli. A Jon siarod nas daŭno žyvie i dobra pracuje. Ks. Tałočka heta typovy i čysta biełaruski charaktar. Heta čałaviek zachodnia-eŭrapejskaj kultury. Žyćciovaja linija hetaha čałavieka — katalickaja. Praŭda i spraviadlivaść u hetaha ksiandza stajać na pieršym miescy.

## З царкоўнага жыцьця

**(Польскае праваслаўе, хіротонія двух епіскапаў, устанаўленьне платы праваслаўнай ерархіі і становішча Беларусаў)**

I.

Дасюль усе прывыклі ўважаць праваслаўе рэлігіяй усходніх і паўдзённых славянаў. У граніцах Польскай Рэчыпаспалітай даўней і цяпер праваслаўе лічаць верай „крэсовых" нацыянальных меншасьцяў — Украінцаў і Беларусаў. Аб тым, што можа быць польскае праваслаўе, ніхто ня ўмеў і падумаць. Тымчасам дайшло й да гэтага.

У Горадні знайшлася групка „prawosławnych polaków", аб каторых у свой час шырока пісала беларуская прэса, і пачала круціць калясо гісторыі ў адваротны бок — пачала ўстанаўляць „польскае праваслаўе". Паўстае ў 1937 г. таварыства *„Dom Polaków wyznania prawosławnego im. króla Stefana Batorego w Grodnie"*, якое імкнецца— „аб'яднаць усіх праваслаўных палякоў Горадзеншчыны, каб вырабляць у іх *„świadomość narodową"*. Пасьля гэтага, дзеля шырэйшай дзейнасьці, з багаславенства мітрапаліта Дзяніса, сарга-

---

АД. СТАНКЕВІЧ

## ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД

*(У 950-ыя ўгодкі Хросту Беларусі: 988/9—1938/9)*

I

### Веліч і значэньне Хрысьціянства

*Сонца й жыцьцё. Хрысьціянства і душа чалавека. Хрысьціянства й культура. Хрысьціянства панад часам і прасторам. Агульнае значэньне Хрысьціянства. Скромная гэта праца —у чэсьць 950-годзьдзя Хросту Беларусі.*

Сонца — яго сьвет і цяпло — зьяўляецца першай і найважнейшай умовай жыцьця на сьвеце. Без яго быў-бы застой і бязладзьдзе. Бяз сонца ня можам мы сабе і прадставіць жыцьця ў прыродзе. Дзеля-ж гэтага яно шчодра дарыць сваімі дзіўнымі дарамі ўсю прыроду, ня вылучаючы і чалавека. Яно на ўсіх і на ўсё сьвеціць, усіх і ўсё грэе, яно ўсіх і ўсё сваім цяплом і сьвятлом пранікае, паклікае да жыцьця і ўсяму жывому стварае ўмовіны, у якіх яно можа жыць, разьвівацца і гэтак спаўняць сваю таёмную жыцьцёвую ў прыродзе мэту. Так дзіўна ёсьць шчодрым сонца, што яно і тады дарыць нас сваімі дарамі, калі мы гэтага не заўважваем і не спасьцерагаем і аб гэтым ня думаем. Яно разсеяна ў прыродзе, яно там існуе спосабам нават таёмным, укрытым. Бо-ж і агонь, які чалавек у рознай форме і розным спосабам дабывае на свае жыцьцёвыя патрэбы, — гэта ўкрытае сонца. Толькі да таго не даступныя дары сонца, хто ад яго хаваецца.

Тое, што наглядаем у адносінах сонца да прыроды, мае дзіўнае падабенства, аналёгію ў адносінах Хрысьціянства да душы чалавека, у адносінах да яго духовага жыцьця. Нікога яно ня вылучае, ад нікога ня крыецца, прад нікім не зачыняе сваіх дараў, усім сьвеціць, усіх і ўсё грэе. Ня было і няма на сьвеце такой тэорыі, такой навукі, такой духовай тэорэтычнай сыстэмы, якая была-б так унівэрсальнай, і так

нізаваны ў Горадні місыйны „*Prawosławny Instytut Naukowo Wydawniczy*". Беластоцкі ваявода зарээстраваў „*Instytut*" як праўна асабовую арганізацыю. Сьв. Сынодзацьвердзіў статут „*Instytutu*". „*Instytut*" мае выдаваць рэлігійна-багаслоўскія падручнікі, малітаўнікі, абразы і г. д Горадзенскі „*Instytut*" нядаўна выдаў брашуру „*Głos Prawosławia*" (11.XI 1938), у якой самыя толькі загалоўкі артыкулаў кажуць, што гэта голас „польскага праваслаўя". Не адрэчы адзначыць, што гэты „*Instytut*" выдаў і „*Kalendarz Prawosławny na 1939 rok*". Ужо (3.V. 1938) заложана ў Горадні новая, чыста польская, праваслаўная царква. Зразумела, што і сьвяшчэньнікам у гэтай новай польскай царкве будзе асоба польскай нацыянальнасьці. Магчыма, што гэтая польская праваслаўная царква будзе і пад уладай праваслаўнага епіскапа польскага паходжаньня.

II.

У днях ад 26 да 29 лістапада 1938 г. адбылася ў Пачаеўскай Лаўры хіротонія б. вайсковых капэлянаў а. Штрэтэра і а. Семашкі, **каторыя прызнаюць сябе палякамі**, у праваслаўныя епіскапы. Кандыдаты ў епіскапы прынялі 12 лістапада манашэства: сьвяшч. Штрэтэр пад імям Цімафея, а сьвяшч. Семашка пад імям Матвея; на другі дзень былі яны ўжо архімандрытамі. Акт хіротоніі дакананы самім мітрапалітам Дзянісам у прысутнасьці ўсіх епіскапаў. Новы епіскап Цімафей Штрэтэр назначаны вікарным епіскапам у Варшаўска-Холмскую епархію, а еп. Матвей Семашка вікарным епіскапам у Віленскую епархію.

Нованазначаны епіскап Матвей Семашка ў Вільні да духавенства і ў царкве да народу першую сваю мову гаварыў папольску.

III.

Дэкрэт Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, які ўстанаўляе праўнае палажэньне Царквы ў дзяржаве, вызначае так-жа й плату праваслаўнай царкоўнай ерархіі. Мітрапаліт, апрача 180 гактараў зямлі, а епіскапы, апрача 150 гактараў зямлі, будуць атрымліваць з дзяржаўнага скарбу гэткую плату:

1) Мітрапаліт на сваё ўтрыманьне і ўтрыманьне свайго дому месячна — 1,875 зл, 2) епіскап на сваё ўтрыманьне і ўтрыманьне свайго дому месячна — 1,200 зл., 3) епіскап-вікарны месячна — 500 зл., 4) дырэктар мітрапалітальнай канцэлярыі — 500 зл., 5) сэкрэтар Кансысторыі — 250 зл., 6) сябры Кансысторыі — па 225 зл.

Дэкрэт Прэзыдэнта стаіць на становішчы, што Праваслаўная Царква ў Польшчы — гэта **польская царква** і гэтак яе ўсюды называе — **„Polski Autokiefaliczny Kościół Prawosławny".**

* * *

Беларусы праваслаўнай царкоўнай уладзе ў Польшчы часта ставілі свае дамаганьні — беларускае арганізаванае грамадзянства, царкоўныя дзеячы і праводжаныя ніжэйшым духавенствам міране, нямала падалі Мітрапаліту і епархіяльным епіскапам усялякага роду пісьменных дамаганьняў *увядзеньня ў царкоўна-рэлігійнае жыцьцё Беларусаў іх роднай, беларускай мовы.*

У пастановах Б.Н.А. апошніх часоў (камунікат № 8 з 18.IX.1938, другое выданьне пасьля канфіскаты) зварочваецца ўвага на:

„патрэбу правядзеньня беларусізацыі ў праваслаўным царкоўна-рэлігійным жыцьці на землях заселеных Беларусамі ў царкоўных пропаведзях і агулам у навучаньні рэлігіі".

На гэткім становішчы стаяць Беларусы — беларускае арганізаванае грамадзянства, беларускія царкоўна-праваслаўныя дзеячы, радавое праваслаўнае беларускае духавенства і міране.

*Сідарчук.*



---

разам індывідуальнай, так простай і так складанай, так звычайнай і так бяздонна глыбокай, так блізкай і так далёкай, так чалавечай і так разам надчалавечай, так штодзеннай і так вечнай, як навука ўбогага Назарэйчыка Ісуса Хрыста. Хрысьціянства толькі да таго не дастаецца і не пранікае, хто сьведама яго ня хоча і сьведама ад яго стараніцца. Але і гэткія, нясьведама для сябе, як-жа многа карыстаюцца дарамі Хрысьціянства, аддыхаюць ім, яго вечна жывымі сокамі кормяцца! Нават самыя ярыя яго ворагі ня могуць выйсьці з арбіты яго ўплываў і як-жа часта самі да таго-ж імкнуцца, што прыносе Хрысьціянства і з чым яны борацца. Ці-ж лятуценьні марксістаў аб справядлівым, без дамешкі крыўды, сацыяльным на сьвеце ладзе ня ёсьць адгалоскам Хрыстовага валадарства?!

Вялікае значэньне Хрысьціянства ў духовым жыцьці чалавецтва. Сьведча аб гэтым уся гісторыя людзкой культуры. Дайшлі да нас забыткі культуры клясычнай—скарбы старадаўнай навукі і мастацтва, бо гэта ўсё перахаваў Касьцёл і абараніў, каб ня зьнішчылі дзікія народы, што падчас вандроўкаў нахлынулі на Эўропу. Ды касьцёл не агранічыўся абаронай і перахоўваньнем гэных забыткаў — ён гэта ўсё разьвіваў і дапаўняў і на гэтым тварыў ужо сваю хрысьціянскую культуру. Чым быў Каталіцкі Касьцёл для культуры ў Зах. Эўропе, тым была Праваслаўная Царква ў бліжэйшай Азіі і на ўсходзе Эўропы.

Айцы Царквы-Касьцёла, як усходнія, так і заходнія: Клемэнс Александрыйскі, Тэртульян, Орыгенэс, Атаназы, Базыль Вялікі, Рыгор з Ніссы, Рыгор з Наз'янзу, Геронім, Аўгустын і інш., як-жа прыгожа ператварылі ў духу хрысьціянскім галоўныя прынцыпы грэцкіх і рымскіх філязофаў! Было так-жа Хрысьціянства крыніцай натхненьня і арыгінальнай філязофіі. Прыкладам гэтага між іншым зьяўляецца ў сярэднявечча такі волат філязофічнай думкі, як сьв. Тамаш Аквінскі, а з новых вялікі расейскі хрысьціянскі мысьліцель Уладзімер Салаўёў.

*Što pišuć hazety?*

## Ab biełaruskaj prablemie

*„Palityka“* (№ 29 z 25.XII.1938) źmiaščaje artykuł Severyna Vysłoucha ab biełaruskaj prablemie, u jakim, miž inšym, napisana hetak:

„Dvaccać hadoŭ polskaj dziaržaŭnaści na jaje Uschodnich Ziemlach — heta dvaccać hadoŭ eksperymentaŭ u halinie nacyjanalnaj (narodowościowej) palityki ahułam, a adnosna Biełarusaŭ asabliva.

„Urad i centralnyja ŭłady ŭ Varšavie sapraŭdy nikoli nie zdabylisia na nijaki bolš abdumany plan biełaruskaj palityki. Vyrašali hetuju spravu pieradajučy jaje ŭładam na miascoch... Hetaja palityka ŭ zaležnaści ad pahladaŭ paasobnych „wojewodów“ raščapiłasia nia tolki na paasobnyja vajavodztvy, ale dalej — na paviety i vołaści“.

Na naš pahlad, miascovyja — vajavodzkija, pavietavyja i navat vałasnyja — ułady ŭ pastupańni adnosna Biełarusaŭ i ahułam biełaruskaj spravy kirujucca nia tolki svaimi pahladami, ale pradusim pavodle abdumanaha planu centralnych uładaŭ u Varšavie.

## Litoŭski časapis papolsku

*„Lithuanica“.* Pad hetkim zahałoŭkam pačynaje vychodzić u Varšavie litoŭski časapis papolsku. U numary 2 hetaha časapisu za śniežań 1938 h. adznačana nastupnaje:

„Kali šukaješ pieršaha numaru našaha časapisu, dyk viedaj, što jaho nia znajdzieš. Praŭda, №1 „Lithuanica“ vydany, ale na samym pačatku časapis skanfiskavany... Musim hazetu vydavać nie palitoŭsku... Pačynajem vydavać časapis papolsku... „Lithuanica“. Pad hetkim nazovam dva litoŭskija araplany pieralacieli praz Atlantycki akijan. I my puščajem časapis „Lithuanica“ (litoŭščyna) ŭ šyroki śviet, kab pieralacieŭ uzburanyja chvali akijanu nienaviści narodaŭ, kab pieramoh ŭsialakija pieraškody i złučyŭ dva śviety: „naš“ i „vaš“. Praz „Lithuanica“ zblizimsia z inšymi narodami ŭ Polščy. Chočam paznajomić z žyćciom Litoŭcaŭ nia tolki Palakoŭ. Pradstaŭlajemsia i praciahvajem ruku da inšych nacyjanalnych mienšaściaŭ u Polščy. Spadziajomsia, što znajdziem supolny jazyk i pačniom supolnymi siłami budavać našaje zaŭtra. Kali my ŭmieli karysna supracoŭničać u minuŭščynie, dyk lohka dojdziem da sułаdu ciapier...

„My prakanany, što narody žyvučy ŭ susiedztvie pavinny i mohuć žyć sułаdna“.

Biazumoŭna, što narody, asabliva žyvučy ŭ susiedztvie, pavinny žyć sułаdna. A kali budzie śviedamać hetkaj patreby, dyk jana sapchnie na bok usialakija pieraškody z šlachu dobrasusiedzkaha sužyćcia.

## Nacyjanalnaja prablema na Paleśsi

*„Polonija“* z 11.XII.1938 h. źmiaščaje artykuł, u jakim abhavarvaje praces palanizacyi Paleśsia, padajučy hetkija dadzienyja:

„Pierapis nasielnictva z 1931 h. padaje na Paleśsi **1.131.900 žycharoŭ**, z jakich zapisana: Palakoŭ — 164.000, **Biełarusaŭ — 75.000**, Ukraincaŭ — 54.000, Ruskich — 16.200, Niemcaŭ — 1.000, Žydoŭ — 113.000 i h. zv. **„tutejšych“ (palašukoŭ) — 708.200 asob.**

— Hetaja masa nacyjanalna niaśviedamych „tutejšych“ — heta syry matarjał padatny na ŭsialaki nacyjanalny eksperyment. Paśladoŭnaj pracaj možna z ich zrabić Biełarusaŭ, Ukraincaŭ abo Ruskich. Ale (pieradajom dasłoŭna) na ščaście hetuju praŭdu zrazumieli rašajučyja dziejniki na Paleśsi i tasujuć adnosna palašukoŭ takuju palityku, jakaja praz polskuju školu i pazaškolnaje ŭzhadavańnie pastupova pierarablaje maładoje pakaleńnie palašukoŭ na Palašukoŭ — Palakoŭ“.

Hetak vyrašajecca nacyjanalnaja prablema na Paleśsi pavodle polskaha časapisu „Polonija“. Ab hetym piša i orhan „Str. Ludovaha“ — „Piast“, jaki dakazvaje, što hetuju rabotu pravodzić najbolš polskaje vučycielstva, pieravažna z zachodniaj Polščy.



Агулам найвялікшыя мысьліцелі і мастакі слова, гукаў і формы чэрпалі сваё натхненьне з Хрысьціянства. Штож-бы асталося напрыклад з Гетавага Фаўста, калі выкінуць з гэтага твору ўсе хрысьціянскія (каталіцкія) элемэнты? А штож-бы асталося ў найвялікшых галерыях сьвету, калі-б з іх забраць усе шэдэвры рознага роду мастацтва, якія створаны пад уплывам Хрысьціянства?

Як-жа абяднеў-бы Беларускі музэй, калі-б забраць з яго забыткі, якія стварыла хрысьціянская ідэя? Не пазнаў-бы тады яго і ягоны тварэц: закладчык і сабіральнік Іван Луцкевіч. Як-жа зьбяднела-б наша мастацтва, калі-б забраць ад яго хрысьціянскую архітэктуру, разьбу, малярства? Як-жа выглядалі-б сяньня гарады, як на захадзе Эўропы, так і на ўсходзе, калі-б забраць з іх мастацкія касьцёлы і цэрквы, вобак якіх павырасталі чыны хрысьціянскай асьветы і дабрадзейнасьці: школы, шпіталі, прытулкі. Няма бадай ніякай галіны культуры, дзе-б Хрысьціянства ня выказала свайго творчага, дадатняга ўплыву.

Сьнежныя высокія горы, здаецца, усьцяж падымаюцца вышэй у меру таго, як мы ад іх далей адходзім. Па іх мы ар'ентуемся ў дарозе, яны ўсьцяж прад нашымі вачыма. Так і з Хрысьціянствам: мінаюць вякі, праносяцца яны часта над чалавецтвам, як буры вялікія, якія вываракваюць уверх дном і нішчаць народы, дзяржавы, выказваюць аджытасьць і недарэчнасьць сыстэмаў чалавечай мудрасьці, руйнуюць грамадзкі, часта вякамі ўстаноўлены і традыцыяй асьвячаны, грамадзкі лад. А Хрысьціянства, у гэтай завярусе, з пад гэтай руіны і грузаў, выглядае яшчэ больш прынадным, яшчэ больш сьвежым і новым, яшчэ больш жыцьцетворчым. Зуб часу, які ўсё зьядае, руйнуе і зьмяняе, Хрысьціянства не датыкае—яно над час і над прасторы. Яно, як тыя высокія беласьнежныя горы, яшчэ больш высокім і стройным нам прадстаўляецца, чым далей у часе і прасторы ад нас адыходзе.

У 1938-39 годзе спаўняецца 950 гадоў, як

# Biełaruskaja chronika

**Z vydaviecкaje nivy.** Apošnimi dniami ŭ Vilni vyjšli z druku nastupnyja knižki:

*Ks. Ad. Stankievič*—**Biełaruski Chryścijanski Ruch.** Adbitka z „Chr. Dumki." Vilnia 1938. Knižka maje 280 bačyn. Cana 2 zł.

*Teodor Iljaszewicz* — **Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie.** Vyd. T-va Navukovaje Pomačy im. E. i E. Vrubleŭskich. Jość heta magisterskaja praca viedamaha biełaruskaha paeta Chv. Iljaševiča.

*Dr. Stanisłaŭ i dr. Jadviha Hrynkievičy* — **Rady chvorym i zdarovym.** Knižka III. Adbitka z „Šlachu Moładzi." Vilnia 1938. Bač. 80. Cana 50 hr. — Uvieś matarjał hetaje karysnaje knižki— artykuły ab hygijenie, roznych chvarobach i praktyčnyja lekarskija rady drukavalisia letaś u „Šl. Moł."

*„Садоўніцкая чытанка"*. Pad takim nazovam biełaruski haspadarski časapis „Samapomač" vydaŭ zbornik artykułaŭ ab hadavańni sadovych drevaŭ, ab dahladzie ich i abaronie ad usialakich škodnikaŭ. Zbornik maje 84 bačyny i źmiaščaje 20 artykułaŭ z haliny sadoŭnictva, siarod jakich jość miž inšym artykuły viedamaha biełaruskaha sadavoda Ivana Sikory, a tak-ža inž. A. Klimoviča. Knižka bahata ilustravanaja i kaštuje 1 zł.

*Ścienki da biełaruskich kalendaroŭ.* Biełaruskaja kniharnia «Pahonia" ŭ Vilni hetymi dniami vydała novyja ścienki da adryŭnych kalendaroŭ z padabiznami biełaruskich paetaŭ, piśmieńnikaŭ, dziejačoŭ, a tak-ža z biełaruskimi krajavidami. Miž inšym jość ścienki z padabiznami: J. Kołasa, Iv. Łuckieviča, Kastusia Kalinoŭskaha, P. Krečeŭskaha, M. Mašary, Fr. Bahuševiča, M. Nikifaroŭskaha, a tak-ža z repradukcyjami abrazoŭ bieł. mastakoŭ: P. Siarhijeviča i J. Drazdoviča. Jość ścienki i z scenaj z bieł. baletu „Jurje." Kažnaja ścienka z tektury, z pryhožymi roznakalornymi ŭzorami. Cana ścienak pa 10 hr. Hałoŭny skład: Bieł. Kniharnia „Pahonia"— Vilnia, Zavalnaja 1.

**Biełaruskija skaŭty raźvivajucca.** 19.XII.38 u 10-taj Družynie Biełaruskich Skaŭtaŭ u Vilni adbyłasia prysiaha i razdańnie skaŭckich kryžoŭ novym biełaruskim skaŭtam. Na ŭračystaści hetaj byli: kamandant Vilenskaha Skaŭckaha Vokruhu, dyrektar Biełaruskaj Himnazii, pry jakoj henaja bieł. skaŭckaja družyna isnuje, i pradstaŭniki Hurtka Pryjacielaŭ Bieł. Skaŭtaŭ.

**Małady biełaruski etnoloh.** Nadoviačy končyŭ Vilenski Universytet hram. Marjan Piaciukievič i atrymaŭ tytuł magistra filozofii z haliny etnologii — navuki ab narodnych kulturach.

**Likvidacyja astatkaŭ biełaruskich himnazijaŭ u Łatvii.** U Łatvii chodziać viestki, što ŭ 1939 h. maje być źlikvidavany biełaruski kamplekt (filija) pry 2-hoj Dziaržaŭnaj Himnazii ŭ Dźvinsku. Paśla hetaha astaniecca ŭ Łatvii tolki adna biełaruskaja pačatkavaja škoła ŭ Ryzie. Treba viedać, što pakul ułada ŭ Łatvii nia była ŭ rukach ciapierašniaha dyktatara Karala Ulmanisa, biełarusy mieli tam 2 biełaruskija himnazii, vučycielskija kursy i 47 pačatkavych škołaŭ. — Nia hledziačy na varožyja adnosiny łatvijskaje ŭlady da bieł. adradženskaha ruchu, biełarusy ŭ Łatvii ćviorda trymajucca svaje nacyjanalnaści, nie zrakucca jaje nikoli i jak mohuć pracujuć na bieł. adradženskaj nivie.

**Biełarusy ŭ Litvie.** — Bieł. Kult. T-va ładziła 3.XII.38 u Kaŭnasie biełaruskuju viečarynu-bal.

**Biełarusy ŭ Francyi.** Biełaruskaja emihracyja ŭ Francyi prajaŭlaje štoraz bolšuju dziejnaść. Užo paru hadoŭ pracuje siarod biełaruskich emihrantaŭ bieł. kult. arhanizacyja „Chaŭrus." Niadaŭna-ž u Paryžy paŭstała Biełaruskaja Žanočaja Hramada im. Alojzy Paškievičanki—Ciotki. Hramada 11.XII. 38 h. ładziła ŭ Paryžy viečarynu z bieł. kancertam, deklamacyjami i tancami.



---

Хрысьціянства паявілася на землях беларускага народу. 988-9-ы год нашай эры ёсьць тым годам, калі над Беларусяй зазьялі сьветлыя касулькі Эвангельля, нясучы нашаму народу новую эру, новую праўду, новае жыцьцё, нясучы культуру.

Вось-жа дачакаліся Беларусы вялікага юбілею — 950-годзьдзя свайго хрышчэньня. Сьвяткуем мы гэты вялікі юбілей, на жаль, толькі тут, па гэтай старане савецка-польскай граніцы, бо там, у БССР, сьвяткаваць гэтага юбілею ня можна, так як ня можна вызнаваць, верыць і служыць Хрысту, ня можна там усяго гэтага, бо там — о, іронія! — «найбольшая на сьвеце свабода, бо там найідэальнейшая на сьвеце дэмакрацыя!» Дык тым больш шчыра і хоць скромна, але з вялікай верай і любоўю сьвяткуем мы тут гэты так вялікі, гэты так рэдкі юбілей.

Гэтыя 950 гадоў існаваньня ў нас Хрысьціянства вымагалі-б іншага адзначэньня, як гэта скромная наша праца, але на нішто іншае яшчэ сяньня мы здабыцца ня можам. Цэлыя аграмадныя тамы трэба было-б пісаць, каб хоць збольшага адзначыць: догматычна-рэлігійныя, нацыянальныя, культурныя, грамадзкія, этычныя і інш. цэннасьці, якія беларускаму народу прынесла Хрысьціянства.

Пад подыхам хрысьціянскай рэлігіі і этыкі ажывілася і ўзбагацілася беларуская народная душа. Паўсталі хрысьціянскія сьвятыні, манастыры, школы, установы хрысьціянскай міласэрнасьці.

Зьмякчэньне абычаяў у народзе, спыненьне самаволі князёў, баярства і рыцарства, яўнае рашаньне важных дзяржаўных спраў на вечы і збратаньне на ім-жа ў вадну сям'ю вышэйшых слаёў грамадзянства з народам — гэта ўсё сацыяльныя плады сьв. Эванэліі. І не дагадваюцца пэўне тыя Беларусы, якія сяньня вольна ці нявольна пакланяюцца Марксу, што гэта іх «вера»—гэта толькі далёкі-далёкі адгаласак, толькі жалосная карыкатура тых сацыяльных ідэалаў, якія прынесла Беларускаму народу Хрысьціянства.

## Samaŭradavyja vybary

Ciapier adbyvajucca ŭ Polskaj Rečypaspalitaj samaŭradavyja vybary. Hetyja vybary ŭ hramadzka-palityčnym žyćci Rečypaspalitaj źjaŭlajucca vielmi važnym etapam. Samaŭradavyja vybary vyjaviać nastroi nasielnictva haradoŭ i siołaŭ, pakazvajučy hetym, kudy i jak moža być kiravany rul dziaržaŭnaj palityki. Vyniki vybaraŭ, jakija adbylisia 18 śniežnia 1938 h. u 57 haradoch i 6.000 sielskich hramadach, pakazvajuć, što nasielnictva hetych miestaŭ i siołaŭ vyjaŭlaje nastroj *narodaŭładztva* — žadaje svabody, hramadzkaj spraviadlivaści i kulturnaha žyćcia.

Pavodle padziełu mandataŭ, na padstavie vynikaŭ hałasavańnia, O.Z.N. pieramohi nie zdabyŭ.

**U Varšavie** na 100 mandataŭ O.Z.N. zdabyŭ 39, endeki — 11, P.P.S. — 27 mandataŭ, O.N.R. — 4 mandaty, Žydy — 19 mandataŭ.

**U Krakavie:** Chryścijanska-Nacyjanalny samaŭradavy front (u hetym O.Z.N.) zdabyŭ 23 mandaty, P.P.S. — 23, endeki — 12, Žydy — 14 mandataŭ.

**U Paznani:** Endeki — 52 mandaty, O.Z.N. — 19, P.P.S. — 1 mandat.

**U Łodzi:** P.P.S. — 32 mandaty, endeki — 18, Žydy — 17, Niemcy — 5 mandataŭ.

**U Toruni:** Endeki — 26 mandataŭ, O.Z.N. — 12, „Str. Pracy" — 5, P.P.S. — 5 mandataŭ.

U inšych miestach i miastečkach taksama niama absalutnaj pieramohi łaje ci inšaje partyi. U sielskich hramadach tak-ža nie prajaviłasia siła tolki adnaje partyi.

Paśla praviadzieńnia hetaj častki samaŭradavych vybaraŭ, hazety uradavaha kirunku ab nieisnavańni ŭ Rečypaspalitaj upłyvaŭ mnohich partyjaŭ pisać pierastali. Fakty paćvierdzili inšaje.

U hetym m-cy majuć adbycca samaŭradavyja vybary ŭ Haliččynie i Paznanščynie.



## Dziaržaŭny budžet Polščy ŭ Sojmie i Senacie

Sojm i Senat razhladajuć ciapier zaprajektavany ŭradam dziaržaŭny budžet na 1939 - 40 hod. Pavodle hetaha prajektu budžetnyja vydatki pradbačany na sumu **2.523.141.800 zł.**, u hetym 2 miljardy 482,507,000 zł. na vydatki zvyčajnyja i 34.400.900 zł. na nadzvyčajnyja i 6.193.800 zł. na dapłaty niekatorym pradpryjemstvam i dziaržaŭnym fabrykam.

Dachody pradbačany: 1.693. 100.000 zł. biezpasrednaha padatku, 105.056.800 zł. ad pradpryjemstvaŭ i 725.016.700 zł. z dziaržaŭnych manapolaŭ.

**Plan na 15 hadoŭ.** Padčas dyskusii nad prajektam dziaržaŭnaha budžetu vicepremjer i ministar skarbu inž. Kviatkoŭski pradstaviŭ u Sojmie ŭradavy plan dziaržaŭnaj haspadarki, abličany na 15 hadoŭ. Plan padzieleny na 5 etapaŭ: 1) ad 1939—1942 — razbudova dziaržaŭnaj abaronnaści, 2) ad 1942—1945 h. — razbudova kamunikacyi, 3) ad 1945—1948 h. — razbudova ziemlarobstva i padniaćcie narodnaj aśviety, 4) ad 1948—1951 h. — razbudova promysłu, 5) ad 1951—1954 h. — adnalitaje ŭnarmavańnie zachodniaj z uschodniaj čaściej Polščy.

Plan davoli šyroki i razmašysty, ale vykanańnie jaho patrabuje mnoha hrošaj i šmat vytryvałaj pracy.

**Prajekt aŭtanomii dla Ukraincaŭ.** Ukrainskija pasły na sioletniaj budžetnaj sesii Sojmu padali svoj prajekt utvareńnia aŭtanomii dla Ukraincaŭ u Rečypaspalitaj. Hetaha prajektu prezydyjum Sojmu nie pryniaŭ i nie pastaviŭ na paradak dnia dziela razhladu jaho ŭ Sojmie, matyvujučy, što jon supiarečny z abaviazujučaj dziaržaŭnaj kanstytucyjaj.

**O.Z.N. ab Žydoch.** Pasły O.Z.N-u na čale z hien. Skvarčynskim padali ŭ Sojmie interpelacyju, u jakoj damahajucca ad uradu enerhičnaha i ŭsiestaronnaha pastupańnia dziela źmienšańnia liku Žydoŭ u Polščy. Interpelanty damahajucca zarhanizavańnia masavaj emihracyi žydoŭskaha narodu z Polščy.

## Polska-litoŭski handlovy dahavor

Polšč i Litva 22.XII.1938 h. zaklučyli handlovy dahavor. Hety dahavor maje ŭnarmavać haspadarčyja suadnosiny miž Polščaj i Litvoj. Dahavor dakładna rehuluje systemu ŭzajemnaha tranzytu i transportu z Polščy vodnym i čyhunačnym šlacham u kirunku litoŭskaj prystani ŭ Kłajpedzie.

## Znak polska-litoŭskaj pryjaźni

U pačatku śniežnia 1938 h. PAT — polskaja telehrafičnaja ahiencyja — padała kamunikat ab adčynieńni litoŭskaha muzeju ŭ Vilni. Heta aznačała adkryćcio zakrytaha polskaj administracyjnaj uładaj Litoŭskaha Navukovaha T-va, katoraje šmat nahramadziła muzejnych cennaściaŭ.

Uzradavanyja vilenskija litoŭcy — padaje „Lithuanica" — vydelehavali b. staršyniu zakrytaha Litoŭskaha Navukovaha T-va ks. dr. A. Viskanta ŭ Varšavu, kab dakładna daviedaŭsia ab hetym. Ks Viskant byŭ u Ministerstvie Unutranych Spraŭ, byŭ u Administracyjnym Trybunale i ničoha kankretnaha ab Lit. Navuk. T-vie nie daviedaŭsia. Hetu spravu, byccam, vyrašyć sam Vilenski vajavoda.

## Polska-savieckija suadnosiny

Užo namiačajucca znaki palepšanych suadnosinaŭ miž Polščaj i savieckaj Rasiejaj. Užo puščany nanova mižnarodny ciahnik-ekspres na čyhunačnaj linii Kijeŭ-Zdołbunaŭ, jaki byŭ spynieny paśla incydentu z pažaram miesiacaŭ šeść tamu. Uzmocnieny handal, asabliva tranzyt. Mahčyma, što čaść savieckich tavaraŭ budzie nakiravana praz polskuju prystań u Hdyni. Źmianiŭsia i nastroj u hazetach: vyčuvajecca, byccam, zamoŭkłaje pieramirje.

*БЕЛАРУСЫ! Дамагайцеся навучаньня Вашых дзяцей у дзяржаўных пачаткавых школах пабеларуску. Гэткае сваё дамаганьне выяўляйце пісьменна на адпаведных дэкларацыях. Дэклярацыі за школу ў роднай маве, згодна з законам ад 31.VII.1924 г. (Dz. Ust. Rz. P № 79, 1924) і распараджэньнем Міністэрства Асьветы ад 25.XI.1938 г. (Dz. Us. Rz. P. № 94, 1938), падавайце школьным уладам да 10 студня 1939 г.*

*Piśmy ŭ hazetu:*

### Ab sielska-hramadzkich vybarach

*Horadnia.* U niadzielu 11 śniežnia 1938 h. u niekatorych pavietach Biełastockaha vajavodztva adbylisia vybary sielska-hramadzkich radnych. Treba skazać, što hetyja vybary prajšli cicha, biaz bolšaj prapahandy. A treba adznačyć, što samaŭradavyja vybary majuć vialikaje značeńnie dla miajscovaha nasielnictva. Ab hetym śviedčyć zacikaŭleńnie miajscovych ludziej sielska-hramadzkaj i vałasnoj haspadarkaj. Žychary niekatorych viosak padčas vybaraŭ vyjavili vialikaje zaintarasavańnie hramadzkimi i narodnymi spravami.

U bolšaści sielskich hramadaŭ vybary adbylisia biez hałasavańnia: nia było bolš śpiskaŭ kandydataŭ, jak pa adnym. Pryčyna hetaha takaja: bolšaść vybarščykaŭ nia zusim była aznajomlena z vybarnym zakonam, a „pavadyry" i „kultur-trehiery" staralisia tvaryć tolki adzin śpisak kandydataŭ. Tak jano i vyjšła — vybary ŭ sielska-hramadzkije rady adbylisia pieravažna biez hałasavańnia.

Praŭda, kab zdavolić zacikaŭlenych vybarami ŭ siel-hramadzie stvareńniem adnaho śpisku kandydataŭ, treba było „pavadyrom" šmat rabić ustupak i šukać uhody z bolšaściaj vybarščykaŭ, staviačy ŭ śpiski kandydataŭ takich ludziej, proćiŭ katorych nie vystupała-b bolšaść vybarščykaŭ. U biełaruskich sielskich hramadach na radnych vybrany biełarusy.

*J. B—ski*

### „Stronnictvo Ludove" i my

*Słonim.* U vakolicach Słonima davoli husta pašyrajecca „Stronnictvo Ludove." Praŭda, našaje sialanstva nia majučy svajej asobnaj arhanizacyi prychilna adnosicca da „Stron. Ludovaha," a maładziejšyja ŭpisvajucca i ŭ siabry hetaj arhanizacyi. Na schodach i źjezdach „Stron. Ludovaha" našyja pradstaŭniki niaraz damahalisia, kab hetaja polskaja partyja vydavała dla svaich siabroŭ biełarusaŭ asobnuju hazetu — pabiełarusku. Pavadyry „Str. Lud." kivali hałovami, ćvierdzili, što damahańni biełarusaŭ pravilnyja i na schodach u biełaruskim asiarodździ nie zabaraniajuć biełarusam havaryć pabiełarusku, ale bolš ničoha. Sami ab biełaruskich spravach i ab patrebach Biełarusaŭ ničoha nia kažuć i ničoha nia pišuć u hazetach.

U spravach socyjalnych i ahułam haspadarčych my—h. zn. siabry „Str. Lud." Słonimščyny—zusim zhadžajemsia z pavadyrami hetaj partyi, ale nijak nia možam zrazumieć ichniaha niamoha kivańnia hałavoj i ŭporystaha maŭčańnia ŭ spravie pačućcia nacyjanalnaj asablivaści Biełarusaŭ. Biez naležnaha vyrašeńnia hetaj prablemy centralnymi orhanami „Stron Ludovaha" prapahandystam hetaj partyi ŭ biełaruskija masy niama z čym iści. Biełaruskija vydatniejšyja i ŭplyvovyja siabry „Str. Lud" hetkaha vyrašeńnia daŭno čakajuć. Ale ci dačakajucca?

*Uł. Cimoch.*

# Da viedama Biełarusaŭ katalikoŭ

**Nabaženstvy dla biełarusaŭ katalikoŭ, paśla kaladnich śviat, pačnucca ŭ kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni ŭ niadzielu 8 h. m-ca. Imša, jak zaŭsiody, a 10 hadzinie. Padčas Imšy relihijnyja pieśni pabiełarusku, a paśla Imšy — biełaruskaje kazańnie.**

**Nabaženstvy dla biełarusaŭ katalikoŭ u kaściele śv. Mikałaja ad 8 h. m. buduć adbyvacca pastajanna ŭ kožnuju niadzielu i śviata.**

## Z kaścielnaha žyćcia

**60-ja ŭhodki śviatarstva śv Ajca Piusa XI.** Dnia 20.XII.1938 h. Papa Pius XI abchodziŭ 60-tyja ŭhodki śviatarstva. Z hetaj nahody adbyłasia ŭ Vatykanie ŭ hety dzień *skromnaja* ŭračystaść.

**Papieski nuncyj u Usch. Haliččynie.** Nadoviačy adviedaŭ Mitrapalita Šeptyckaha ŭ Lvovie i inšych biskupaŭ u Usch. Haliččynie papieski nuncyj u Varšavie Ks. F. Cortesi. Hetyja adviedziny vyklikali ŭ polskaj presie vialikaje ŭzvarušeńnie. Presa adznačyła, što paśla vystupleńnia ukrainskich pasłoŭ u Sojmie adviedziny nuncyja majuć asablivaje značeńnie.

**Padhatoŭka da praśledavańnia kaścioła ŭ Niamieččynie.** Niamiecki ŭrad pryhataŭlaje zakon, jaki maje adnastaronna rehulavać adnosiny miž Katalickim Kaściołam i Niamieckaj dziaržavaj. Pavodle hetaha zakonu niamieckija biskupy buduć mahčy mieć znosiny z Apostalskaj Stalicaj tolki pad kantrolaj niamieckaha specyjalnaha ministerstva. Pracesii, pilihrymki, vydaviectva katalickich hazetaŭ i ŭsialakaja relihijnaja prapahanda budzie zabaroniena. Katalickija klaštary buduć razahnany, a ich majemaść skanfiskavana, i h. d.

## Ab hetym treba viedać zadoŭžanym sialanam

Pavodle h. zv. kanversyjnych dahavoraŭ razłožana sialanam karotkaterminovy i vysokaapracentavany doŭh na 14 hadoŭ spłaty. Hetkaja pieramiena daŭhoŭ z karotkaterminovych na doŭhaterminovyja z abnižeńniem pracentu— heta i jość **kanversyja.** Z kanversyi skarystała šmat našych sialan, jakija majuć bankovyja i inšyja padobnyja daŭhi. Heta vialikaja palohka dla sialan, bo razłožany doŭh na doŭhija hady lahčej spłačyvać ad karotkaterminovaha Treba tolki pilnavacca, kab nie prapuścić termin i ŭparu apłacić čarhovuju pracentnuju abo kapitałavuju ratu.

Zrazumieła, što śviedamyja prava kanversyjnaha zakonu spłačvajuć hetyja razłožanyja daŭhi akuratna. Ale jość i takija, što rataŭ u paru nia płaciać. Dyk voś chočam hetym źviarnuć uvahu, što prapuskańniem terminu spłaty raty možna skasavać hetaje doŭhahodniaje rasterminavańnie doŭhu. Treba viedać, što ŭ spravie kanversyi abaviazuje hetkaja pastanova: chto nie zapłacić dźvioch čarhovych rataŭ — pracentavych abo kapitałavych — z tym bank maje prava parvać kanversyjny dahavor i zažadać spłaty doŭhu adrazu.

Kožnamu viedama, što ŭ hrašovym različeńni finansavych instytucyjaŭ z daŭžnikami sentymentu niama i hetyja ŭstanovy karystajuć z usich svaich pravoŭ. Nieakuratnych daŭžnikoŭ padajuć u sud i zyskivajuć hrošy z pracentam i sudovymi koštami. Dyk treba viedać, što ŭ spravie kanversyi abaviazuje točnaja i ŭ terminie spłata vyznačanych rataŭ i pracentavych i kapitałavych.

*Haspadar.*

**Daŭžniki! Čas prysłać padpisku na „CHRYŚCIJANSKUJU DUMKU!" Paśpiašycie, bo spynim hazetu!**

**Hrošy prysyłać najlepš „przekazem rozrachunkowym". Numar našaha konta 63.**

## Biahučyja spravy mižnarodnaj palityki

Na padstavie presava-infarmacyjnaha mataryjału možna ścvierdzić, što ŭ ciapierašniaj mižnarodnaj palityčnaj sapraŭdnaści paŭstaŭ fakt, jaki stanuŭ na paradak dnia vyrašeńnia i svajej važnaściaj sapchnuŭ na bok usie inšyja spravy mižnarodnaj palityki. Hetaj spravaj źjaŭlajecca damahańnie Niamieččynaj i Italijaj zamorskich kalonijaŭ. I pakul hetaja kalonijalnaja sprava nia vyrašycca, usie inšyja spravy, uklučna z tymi prablemami, što adnosiacca da siaredniaj i ŭschodniaj Eŭropy, buduć stajać u ciańku i buduć mieć druharadnaje značeńnie.

Ciapier mižnarodnaje pałažeńnie złažyłasia tak, što nia ŭschod Eŭropy i ahułam nia častka Eŭropy, ale basejn Mižziemnaha mora i prymorskija krai Afryki stanuli asiarodździem uvahi i zacikaŭleńnia nia tolki eŭrapejskaj, ale i suśvietnaj dyplomacyi. Niamieččyna z Italijaj pastavili svaje kalonijalnyja damahańni da Anhlii i Francyi adkryta j vostra: addavajcie ŭsie pradvajennyja kalonii ŭ Afrycy.

Hetaj spravaj zaniata ciapier usia eŭrapejskaja dyplomacyja i na jaje ŭvieś palityčny śviet zvaročvaje ciapier hałoŭnuju ŭvahu

## ROZNYJA VIESTKI

### Z Polščy

**900 tysiač dziaciej, 300 tysiač biezrabotnych.** Ahulna-polski kamitet pomačy biezrabotnym, jak ścvierdziŭ ministar Kaściałkoŭski, u najciažejšych zimovych miesiacach abymaje svajej apiekaj bolš 300 tysiač biezrabotnych karmicielaŭ siemjaŭ. Sioleta kamitet padkormlivaje 900 tysiač dziaciej.

**Darahija vybary.** Na vybary ŭ Sojm i Senat, što adbylisia ŭ listapadzie 1938 h., urad vydaŭ 1 miljon 980 tysiač zł. Ciapier urad padaŭ u Sojm na paćvierdžańnie hetyja raschody.

**Napad na palicyju na Šlonsku za Olzaj.** Nadoviačy českija bajoŭki, jak padaje PAT, napali na dvuch palicejskich u Fryštackim paviecie i ručnymi hranatami śmiarotna abodvych ranili.

**Polski pratest prad čechasłavaččynaj.** Pradstaŭnik Polščy ŭ Čechasłavaččynie 16.XII.1938 h. padaŭ čechasłavackamu ŭradu pratest, u jakim polski ŭrad zvaročvaje ŭvahu na paŭstaŭšaje pałažeńnie vyklikanaje praciŭpolskimi arhanizacyjami ŭ čechasłavaččynie i pieraścierahaje, što dalejšaja hetkaja dziejnaść moža być škodnaj dla suadnosinaŭ Polščy z čechasłavaččynaj.

### Z zahranicy

**Pratest savieckaj Rasiei praciŭ budavańnia Vialikaj Ukrainy.** Pradstaŭnik Savieckaj Rasiei ŭ čechasłavaččynie padaŭ čechasłavackamu ŭradu pratest praciŭ budavańnia čechami supolna z Niemcami Vialikaj Ukrainy.

**Vybary ŭ pieršy sojm Zakarpackaj Ukrainy.** Hazety padajuć, što vybary ŭ pieršy sojm Zakarpackaj Ukrainy adbuducca ŭ sakaviku sioleta.

**Vybary ŭ Słavaččynie** ŭ pieršy sojm adbylisia 18.XII.1938 h. Słavacki sojm składajecca z 63 pasłoŭ

**Japonska - kitajskaja vajna.** Apošnimi časami Japoncam nie ŭdajecca vajna z Kitajcami. Kitajcy zaŭziata baroniać svajej baćkaŭščyny i nie paddajucca Japonii. Dasiul Japoncy zabili 823 tysiačy Kitajcaŭ, a Kitajcy zabili 47 135 Japoncaŭ.

**Z vajennaha frontu ŭ Hišpanii.** Apošnimi dniami hien. Franko pavioŭ nastup na respublikancaŭ, ale respublikancy zaŭziata baroniacca i nie paddajucca.

**Mižnarodnaja kanferencyja ŭ spravie Žydoŭ.** Amerykanskaja Federacyja Neosijanistaŭ pačała starańni sklikać mižnarodnuju kanferencyju dziela vyrašeńnia ciažkoha pałažeńnia Žydoŭskaha narodu na ŭsim śviecie.

**Słoviency i Charvaty niezadavoleny ŭ Juhasłavii.** U Juhasłavii niadaŭna adbylisia parlamanckija vybary, u jakich pieramahła ŭradavaja partyja. Adnak hetaj pieramohaj sapraŭdnaści zakryć nie ŭdajecca. Charvaty i Słoviency damahajucca inšaha ładu ŭ Juhasłavii — damahajucca aŭtanomii. Jany svaje damahańni abasnoŭvajuć hetak: Juhasłavija— pavinna być dziaržavaj troch roŭnapraŭnych i roŭnavartasnych narodaŭ: Serbaŭ, Charvataŭ i Słoviecaŭ. Kožny z hetych narodaŭ na svajej terytoryi pavinien mieć poŭnuju aŭtanomiju.

## Vilenskaja chronika

**Redaktary „Elty“ i „Lietuvos Aidas“ u Vilni.** Nadoviačy adviedali Vilniu redaktary Kovienskaj hazety „Lietuvos Aidas“ i litoŭskaj presavaj ahiencyi „Elta“.

**Zakryćcio litoŭskaj škoły T-va „Kultura“ ŭ Vilni.** Kiraŭnictva litoŭskaj škoły ŭ Vilni T-va „Kultura“ atrymała paviedamleńnie, što ŭ kancy 1938-39 školnaha hodu škoła budzie zakryta. Školnyja ŭłady matyvujuć svaju pastanovu ŭ hetaj spravie nieadpaviednaściaj školnaha budynku.

**Polskija karespandenty z Litvy.** Nadoviačy adviedali Vilniu karespandenty polskaj presy z Litvy, jakija abznajomiŭšysia z žyćciom u Vilni, pajechali ŭ Litvu.

## Paštovaja skrynka

**Michaś H—č.** Piśmo z karespandencyjaj i vieršami atrymali. Premiju Vam vyšlem. Hazetu pašlom usim. Karespandencyju nadrukujem u nastupnym numary. Vieršy razhledzim i dadziom Vam adkaz. Za prysłanaje dziakujem. Pišycie ab usim, što ŭ Vas čuvać.

**M. Litvin.** U Vašym piśmie niama adrasu. Padajcie vyrazna svoj adras i pryšlicie 1 zł. na pierasyłku, dyk biblijatečku vyšlem. U piśmie paklikajciesia na hety adkaz. Pišycie, što robiać i jak žyvuć vašyja sialanie.

**Kryvič.** Vašyja vieršy słabavatyja. Pišycie ŭ hazetu piśmy ab žyćci ŭ Vašaj vakolicy.

**P. S—ko.** Hazetu pasyłajem—4 ekzemplary. № 31 vysłali. Vieršy razhledzim. Pišycie karespandencyi.

**A. Cikota.** Knižki ŭ premii možna źmianić. Hazetu pasyłajem tak, jak Vy pakazvajecie.



Padpiska na „Chr. Dumku“ na hod —4 zał., na paŭhodu— 2 zał. na try miesiacy — 1 zał. Cana asobnaha numaru — 10 hr
Adrys Redakcyi i Administracyi: Vilnia (Wilno), Zavalnaja vul. № 1—2.

Redaktor J. POŹNIAK — Wydawca KS. AD. STANKIEWICZ
Рэдактар Я. ПАЗЬНЯК — Выдавец КС. АД. СТАНКЕВІЧ

Drukarnia Białoruska im. Fr. Skaryny, Wilno, Zawalna 1. — Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1